Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 5 — Вільня, 5-га верасьня 1936 г. — Год I.

## Усходняя ар'ентацыя беларусаў.

Ёсьць ;ведамым фактам, што паміж беларусамі вельмі пашырана г. зв. усходняя або расейская ар'ентацыя. Прычын на гэта даволі многа як з мінуўшчыны так і сучаснасьці. З мінуўшчыны асталіся ўспаміны, асабліва пасярод старэйшых, даўнейшага „добрага“ жыцьця за часоў царызму на розных урадавых пасадах; прыпамінаюцца магчымасьці паехаць у далёкія гарады Расеі на заработкі або нават пашукаць свабоднай зямлі для сябе ў Сібіры, Туркестане ці нават Амуры... Проціўстаўляецца гэтым магчымасьцям сяньняшняе бязвыхаднае палажэньне і „закаркаваннасьць“ краю — усё гэта ў старэйшым пакаленьні пакінула нейкую тугу за даўнейшым жыцьцём у царскай Расеі і ёсьць аднэй з прычын усходняй ар'ентацыі часткі беларускага грамадзянства. Пасярод маладзейшага пакаленьня таксама адыгрывае вялікую ролю „цяга“ да ўсходніх прастораў, дзе можна знайсьці работу; але апроч гэтага ў яго ёсьць яшчэ іншая прычына ўсходняй ар'ентацыі, а гэтай прычынай ёсьць будова новага грамадзкую ладу на прасторах даўн. Расеі. Гэты лад мае ўстроіць жыцьцё пановаму, без зьненавіджаных ад веку гнібіцеляў, мае даць усім працу і жаданую грамадзкую справядлівасьць — і вось гэты новы лад цягне да сябе асабліва моладзь, якая заўсёды шукала большай справядлівасьці на гэтым сьвеце...

Такім парадкам стварылася пасярод беларусаў усходняя, або як цяпер кажуць, камуністычная ар'ентацыя. Кожны ведае, што ня ўсе з усходняй ар'ентацыяй беларусы былі і ёсьць камуністамі; яны часта ня толькі ня хочуць камунізму, але нават ненавідзяць яго; аднак годзяцца з ім, як з меншым злом, бо кажуць, іншага выхаду няма... Непрагляднасьць сучаснага палажэньня робіць іх мімаволі калі ўжо не сапраўднымі грамадзкімі камуністамі, то прынамся палітычнымі... Не ар'ентуючыся на камунізм, яны ўсёжтакі ар'ентуюцца на ўсход, бо там бачаць для сябе асабіста адзіны выхад.

Апроч гэтага некаторых беларускіх „ідэолёгаў“ цягне ўсход, як адзіны кірунак і магчымасьць экспансіі беларускага народу. Кажуць, што на захадзе ўжо месца няма, што захад для беларусаў нічога ня дасьць, а ўся будучыня для беларускага народу, як з боку эканамічнага так і нацыянальнага, ляжыць на ўсходзе — і дзеля гэтага яны ўсе свае спадзяваньні скіроўваюць толькі на ўсход...

Закранаем тут прынцыповае пытаньне, якое мае вялізарнае значэньне для беларускага народу і хацелі-б, каб яно было як найшырэй прадыскутавана і выясьнена ў беларускім грамадзянстве.

Выясьняючы нашае становішча, мы падойдзем да гэтага пытаньня з пункту гледжаньня тэорэтычнага і практычнага.

*У тэорыі* мы нічога ня маем проціў усходняй ар'ентацыі. Прызнаём вялікія магчымасьці працы на ўсходніх прасторах, бачым магчымасьці эміграцыі ў Сібір, Туркестан і інш. краіны, бачым таксама нашых братоў-беларусаў на ўсходзе — словам, у тэорыі ўсё прамаўляе за ўсходняй ар'ентацыяй.

*У практыцы* аднак справа прадстаўляецца інакш. Перш за ўсё ўсход ня ёсьць краінай незанятай, ён мае свае насельніцтва і сваю форму ўлады. Гэтая форма цяпер камуністычная.

Ня маючы нічога проціў камунізму, як сацыяльнага кірунку (бо працаваць разам і спажываць разам ёсьць часта вельмі карысным), мы аднак ня можам ар'ентавацца на сяньняшні *марксаўскі* камунізм. Камунізм гэты ёсьць ня толькі сацыяльным кірункам, але і філёзофічным, кладучым асновы для ўсяго сьветагляду чалавека. А марксаўскі камунізм, як ведама, апіраецца на матэр'ялістычным паглядзе на сьвет і на ўсе жыцьцёвыя працэсы чалавецтва. Пагляд гэты загадывае глядзець на чалавека, як на вышэй разьвітую жывёліну, якая мае перад сабою толькі змаганьне за існаваньне, душэньне інакш думаючай жывёліны, якая завецца чалавекам і адбіраньне ад яе свабоды ў імя камунізму...

Мы аднак уважаем, штe чалавек мае права да свабоды — і то большай, чым мае жывёла, што ён мае ня толькі матар'яльныя патрэбы, але і духовыя, і што да асягненьня гэтых патрэб павінен мець поўную свабоду. Камунізм гэтага ўсяго не дае і затым мы ў сучаснасьці на ўсходнюю ар'ентацыю згадзіцца ня можам.

Ня можам на гэта згадзіцца ня толькі з агульна-чалавечага пункту гледжаньня, але і з беларускага. Справа ў тым, што камуністычная ўлада нішчыць *зьмест* беларускага народу, нішчыць яго цела і душу, нішчыць фізычна і духова. Аб фізычным нішчэньні беларускага народу ў Саветах пісалася ўжо няраз і ўсіх довадаў паўтараць тут ня будзем, пакажам толькі на галоўныя факты: высыланьне на ўсход, „на большы прастор“, беларускага сялянства, якое там распыляецца і гіне для беларускага народу; прысыланьне ў Беларусь чужынцаў (расейцаў, калмыкоў, кіргізаў і інш.), якія нішчаць нацыянальныя, беларускія асаблівасьці краю; заводжаньне сілаю калектывізацыі і адбіраньне ад бел. сялян пладоў іхнай працы і вывожваньне іх у гарады Расеі, прычым бел. сялянства часта цярпіць голад — гэта ёсьць факты фізычнага нішчэньня беларускага народу на ўсходзе, ў Саветах.

Апроч фізычнага нішчэньня праводзіцца плянова і духовае нішчэньне, бо нішчыцца зьмест беларускай культуры, а пакідаецца толькі форма яе. Прыгэтым тыя беларускія дзеячы, якія хацелі разьвіцьця беларускай культуры ня толькі ў форме, але і зьмесьце, растрэляны або вывезены на ўсход...

На гэта можа хто сказаць: як-жа, то-ж там ёсьць беларускія школы і друкуюцца беларускія кніжкі, а ў іншых дзяржавах, у якіх жывуць беларусы, і гэтага няма!.. Так, у Сав. Беларусі ёсьць бел. школы і кніжкі, але якія яны? Ці яны ёсьць сапраўды беларускія, і формай і зьместам? Вось-жа на гэтае пытаньне мусім адказаць, што і школы і кніжкі тамака толькі ў форме (мове) сваей беларускія, а ў зьмесьце сваім яны інтэрнацыянальныя і накіраваны да тэй мэты, каб вырваць з беларускага народу яго нацыянальнае пачуцьцё і зрабіць яго „савецкім“ народам. Дый нават сама форма беларуская ня ўсюды дадзена беларускаму насельніцтву, як напр. у Смаленшчыне, Чарнігаўшчыне, Віцебшчыне і іншых бел. землях, якія дагэтуль не далучаны да Сав. Беларусі і маюць расейскую мову ў кніжцы і школе. А ўзяць яшчэ аслаўленую Дзяржыншчыну (Койданаўшчыну), дзе праз стварэньне ў сэрцы Беларусі польскага раёну праводзіцца польшчаньне беларусаў! Як тут так і там адбываецца жорсткае духовае і фізычнае нішчэньне беларускага народу. На гэтакае нішчэньне мы ар'ентавацца ня можам.

І калі нават у другіх дзяржавах беларусы ня маюць усяго, чаго яны жадаюць, дык гэта яшчэ ня довад, што яны павінны ар'ентавацца на камуністычны ўсход. Гэтак робяць людзі з парабкоўскаю душою, якая заўсёды шукае „лепшага“ пана і якая ня можа зразумець вольнага незалежнага жыцьця. А гаспадарская душа мае іншыя мэты: яна ідзе да свайго собскага гаспадарства.

Некаторыя кажуць, што камунізм ня вечны, ён праміне, як і ўсё на гэтым сьвеце, а пасьля камунізму прыйдзе новы лад, новая Расея, і ўсёжтакі наша будучыня на ўсходзе...

Спытаемся ў іх, якая гэта мае быць, гэтая „будучая“ Расея: царская, дэмакратычная ці якая іншая? У кожным выпадку яна будзе ня лепшая за камуністычную, бо яна будзе прадусім зьбіральніцай усіх «рускіх« зямель, будзе русыфікаваць усіх „інародцаў“ і ня будзе прызнаваць беларускай культуры нават у яе форме. Значыць — і на будучую Расею ар'ентавацца таксама ня можна.

З абвяшчэньнем праекту новай савецкай канстытуцыі некаторыя беларусы пачалі выражаць надзею, што камуністы з часам зусім «паправеюць“ і дадуць поўную грамадзкую свабоду для народаў і грамадзян Савецкага Саюзу. Мы аднак інакш глядзім на гэту справу: мы праканаваны, што камуністы ніколі не адкажуцца ад прынцыпу дыктатуры, а побач з дыктатурай ня могуць існаваць поўныя грамадзкія свабоды.

Ды ўрэшце прабываньне ў граніцах Савецкага Саюзу ня ёсьць для нас ідэалам: мы маем большы і вышэйшы ідэал, а гэтым ідэалам ёсьць незалежнасьць Беларусі. Ідучы да гэтай незалежнасьці, мы як ня можам ар'ентавацца на захад, так ня можам ар'ентавацца на камуністычны, ці які іншы ўсход, бо гэты ўсход поўнай незалежнасьці Беларусі не прызнае.

У канцы прыпомнім словы лёрда Салісбуры, каторы сказаў; ,,Народы, якія ня маюць сваей дзяржавы, выміраюць. Гэтакая-ж доля чакае тыя народы, якія згадзіліся на пазбаўленьне іх грамадзкіх і палітычных правоў“.

## Працэс 16 трацкістаў у Маскве, яго прычыны і водгукі.

Ад 19 да 24 жніўня с. г. Вайсковая Калегія Вярхоўнага Суду СССР разглядала справу 16 трацкістаў, абвінавачаных у прыналежнасьці да г. зв. „трацкісцка-зіноўеўскага цэнтру“. Цэнтр гэты, паводле акту абвінавачаньня, займаўся тэрорыстычнай дзейнасьцю ў СССР (забойства Кірава і інш.) і падгатаўляў шэраг новых забойстваў—Сталіна, Варашылава, Кагановіча і іншых кіраўнікоў сучаснай савецкай палітыкі, імкнучыся да здабыцьця ўлады ў СССР. На лаве абвінавачаных заселі: Зіноўеў (Апфэльбаўм), Каменеў (Розэнфэльд), Яўдакімаў, Бакаеў, Мрачкоўскі, Тэр-Ваганян, Смірноў, Дрэйсэр, Райнгольд, Пікэль, Гольдман, Фрыд (Круглянскі), Ольбэрг, Бэрман, Лур'е Натан і Майсей. Нацыянальны склад абвінавачаных — 12 жыдоў, 3 расейцы, 1 армянін. Паводле іхняй ролі ў камун. партыі і наагул савецкім жыцьці трэба сказаць, што гэта была запраўды „старая ленінская гвардыя“, а Зіноўеў і Каменеў — гэта нават закладчыкі бальшавіцкай партыі. Усе абвінавачаныя падчас расейскай рэволюцыі, хатняй вайны і прыблізна да 1925 г. займалі высокія становішчы. Зіноўеў стаяў на чале Камінтэрну, каторы ён і зарганізаваў, а як чырвоны губэрнатар Петраграду разам з

Бакаевым (начальнікам петраградзкай чэ-кі), растраляў тысячы мірных грамадзян. Каменеў—сябра Політбюра, Сьмірноў — сябра ЦІК, прэзэс Украінскага саюзу вугляколаў, Дрэйсэр—адзначыўся пры растрэлах краніштацкіх матросаў за паўстаньне супроць Саветаў.

Сьведкаў на працэсе было ўсяго двое, акт-жа абвінавачаньня апіраўся на прызнаньнях сваей віны абвінавачанымі, каторыя паўтарылі свае прызнаньні і на працэсе. Пры гэтым абвінавачаныя ня толькі прызналіся да ўсяго, але і ўзводзілі на сябе ўсялякія паклёпы, якім ніхто, не выключаючы мусіць судзьдзяў і пракурора, ня верыў. Апрача таго кожны абвінавачаны лаяў сябе літэральна апошнімі славамі, „каяўся" і прысягаў надалей быць верным Сталіну. Некаторая прэса гэткае захоўваньне абвінавачаных тлумачыць іх трусасьцю і адсутнасьцю ўсялякага пачуцьця асабістай годнасьці, выплываючаю з страху перад сьмерцьцю. У кожным прыпадку, калі-б гэтак і ня было, дык трэба прызнаць, што нават зьвёзды рэвалюцыі і бальшавізму гэткай вялічыні, як абвінавачаныя, прайшоўшы сьледзтва ГПУ, зрабіліся праўдзівымі хадзячымі трупамі.

Суд засудзіў усіх абвінавачаных на кару сьмерці праз растрэл. ВЦІК, да якога яны адклікаліся, не скарыстаў з права ласкі, дзеля чаго ўсе засуджаная 25 жніўня г.г. былі растраляны.

Дзеля таго, што некаторыя абвінавачаныя сваімі паказаньнямі абцяжылі іншых савецкіх цыгнітараў, як трацкістаў, дык адбыліся, адбываюцца і маюць адбыцца новыя арышты і суды.

Калі пашукаць глыбейшых прычынаў гэтага працэсу, дык трэба выйсьці за межы акту абвінавачаньня і сягнуць да таго ідэолёгічнага разыходжаньня між Сталіным і Троцкім, якое пачалося праяўляцца па сьмерці Леніна. Ужо ад 1927 г. між гэтымі двумя прэтэндэнтамі на кіраўніцтва бальшавіцкай партыяй пачалася фактычна адкрытая вайна. Асноўным мамэнтам, каторы выклікаў гэтае ідэолёгічнае разыходжаньне, зьяўляецца імкненьне Сталіна да пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне —Саветах, тады як Троцкі імкнуўся да сусьветнай рэвалюцыі і тэзу Сталіна лічыў немагчымай і шкоднай, асабліва, калі рэформы Сталіна ў практыцы вялі не да чыстага камунізму, а да дзяржаўнага капіталізму, які фактычна сяньня зьяўляецца пануючым ладам у Саветах. З гэтага ідэолёгічнага разыходжаньня паўстала і тактычнае. Супрацоўніцтва Сталіна і Троцкага зрабілася немагчымым і ў 1929 г. Троцкі быў выгнаны з Саветаў. Ня спыніў ён аднак сваей палітычнай дзейнасьці. Гэтым чынам у камуністычнай партыі як у Саветах так і заграніцай паўстаў рух званы "трацкізмам". З ініцыятывы Троцкага склікаены быў нават г. зв. IV інтэрнацыянал, які назваў новы кірунак „міжнароднай работніцкай партыяй бальшавікоў-ленінцаў" і заняў варожую пазыцыю да III інтэрнацыяналу, на чале якога стаіць Сталін. Трацкісты ўважаюць, што толькі яны перахоўваюць у чысьціні камуністычную навуку Леніна, Сталіна-ж лічаць здраднікам, а Саветы—паліцэйскай бюрократычнай дзяржавай таго-ж Сталіна. З прычыны працэсу 16 трацкістаў, сам Троцкі, які прабывае цяпер у Норвэгіі, заявіў, што факт гэты азначае канец бальшавіцкай партыі ў Саветах. Уплывы Троцкага заграніцай пачалі расьці, асабліва ў Францыі, дзе зьявілася і адпаведная прэса.

Дзейнасьць трацкістаў у Расеі такжа ажывілася і праяўлялася ў тэроры. Ось-жа, каб расчытацца назаўсёды з сваімі ідэолегічнымі праціўнікамі, скампрамітаваць іх у вачох работніцкай клясы Зах. Эўропы, а прадусім у Саветах паказаць масам „праўдзівых" шкоднікаў і віноўнікаў тых ці іншых палітычных і эканамічных непаводжаньняў у савецкім будаўніцтве, Сталін і здэцыдаваўся на гэты працэс. Іх абвінавацілі ў стасаваньні тэрору на абшары СССР і ў шкодніцтве, у зносінах з Гэстапо (нямецкая палітычная паліцыя), прымусілі „прызнацца" і пакаяцца—а потым растралялі... Ці гэтак Сталін дапяў сваей мэты, пакуль што сказаць трудна, хутчэй аднак трэба згадзіцца з тым, што не. Працэс гэты ў кожным прыпадку выклікаў падозрэньне да палітыкі Сталіна ў работніцкіх масах заграніцы. Адно толькі не падлягае ніякаму сумніву, гэта—разьбіцьцё камуністычнай партыі не два кірункі. Носьбітам чыстай камуністычнай ідэолёгіі адны лічаць трацкізм, а другія сталінізм. З гэтага гледзішча маскоўскі працэс творыць запраўды новую карту ў гісторыі камунізму.

Цікавае становішча адносна працэсу і ідэолёгічных розьніцаў між Троцкім і Сталіным займае нямецкая прэса. Частка яе рашуча цьвердзіць, што між Сталіным і Троцкім няма ніякіх разыходжаньняў і што ў сапраўднасьці яны цесна супрацоўнічаюць. Гэткае становішча выдаецца аднак няпраўдападобным.

Эўрапэйская работніцкая прэса (некамуністычная) аднеслася да працэсу і жорсткай кары, якая спаткала абвінавачаных трацкістаў, ня толькі няпрыхільна, але нават варожа.

Эміграніцкая расейская прэса, асуджаючы тасаваныя да абвінавачаных мэтады, сам працэс лічыць як зьявішча дадатняе на шляху да „аздараўленьня" Расеі.

Працэс гэны, як пішуць газэты, ёсьць пачаткам цэлага шэрагу іншых працэсаў трацкістаў у сувязі з новымі арыштамі.

—Ш.

## Украінцы процiў „народнага" фронту.

Паводле вестак, якія мы атрымалі з Львова, украінскія партыі і арганізацыі аднясьліся нэгатыўна да г. зв. народнага фронту, які камуністы будуюць у Польшчы. І так — процiў „народнага" фронту такія ўкраінскія партыі і арганізацыі: прадусім УНДО, дагэтуль найболей уплывовая ўкраінская партыя, потым „Фронт Нацыянальнай Еднасьці", які набірае штораз болей сілы і арганізацыйнага размаху; далей „Украінская Сацыяльна-Радыкальная партыя"; Укр. сац-дэмакратычная партыя, Саюз украінскіх жанчын і іншыя арганізацыі, ня лічачы рэлігійных. З гэтага бачым што ўсе ўкр. паважнейшыя партыі і арганізацыі процiў „народнага" фронту.

У жніўні месяцы мітрапаліт Шэптыцкі выдаў пастырскі ліст, у каторым выступае супроць камунізму і г. зв. народнага фронту. У сваім лісьце мітр. Шэптыцкі кажа, што мэтадам і зьместам камуністычнай агітацыі ёсьць ілжа, бо яны калі гавораць аб свабодзе, то маюць на мэце няволю, а калі гавораць аб дабрабыце, то нясуць голад. Ілжой таксама ёсьць і народны фронт, бо камуністы прыкідываюцца часам нават добрымі хрысьціянамі і прыступаюць зьняважніцка да сьв. Таемстваў, каб толькі здабыць давер хрысьціян і доступ да іх, каб выступіць тым сільней процiў хрысьціянства. Таксама ёсьць ілжою камуністычны кліч да змаганьня з фашызмам. Не з фашызмам, але з рэлігіяй і нацыянальнай культурай змагаюцца камуністы, а толькі сыстэма ілжы загадывае ім называць гэтыя рэчы фашызмам. Дык трэба пазнаць праўду і ня верыць бяскрытычна агітатарам — прасьцярагае мітрапаліт. Урэшце кажа, што хто памагае камуністам у іхнай палітычнай рабоце, той здраджае царкву, а хто супрацоўнічае з утвараньнем і дзейнасьцю „народнага" фронту, той здраджае свой народ.

Трэба, каб гэты голас ведала і беларускае грамадзянства, асабліва тая частка, якая адносіцца да „народнага" фронту або пазытыўна, або „ўстрымана і крытычна"

## На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

**Абнова „Хрысьціянскай Думкі".**

Сьледам за БНА хоча абнавіцца і „Chryścijanskaja Dumka", беларускі каталіцкі часапіс. З гэткай мэтай на бачынах часапісу зьявіўся заклік да дыскусіі на тэму абновы. На наш пагляд, абнова — добрая рэч, асабліва калі яна вядзе да абнаўленьня на лепшае — і гэтакай абновы „Хр. Думка" патрабуе ўжо здаўных. Галоўнай заганай гэтага патрэбнага для беларусаў-каталікоў часапісу была да апошніх часоў няўмеласьць яго рэдагаваньня. Прадусім трэба адзначыць няжыцьцёвасьць артыкулаў, пісаных на рэлігійных тэмы; артыкулы гэтыя (з малымі вынятвамі) болей падыходзілі да пачатку 19-га стагодзьдзя, чым да 20-га; апроч гэтага у часапісе наагул ня было глыбейшых і жыцьцёвых рэлігійных тэмаў, якімі цяпер так інтарасуюцца людзі і якіх так жадае маладая беларуская інтэлігенцыя. Помнім добра, напрыклад, якое вялікае заінтарасаваньне выклікала на віленскім грунце зладжаная Бел. Студ. Саюзам дыскусія на тэму: „Ці ёсьць навуковыя доказы існаваньня Бога"? А ці мала ёсьць такіх тэмаў, якія можна было-б закрануць і выясьніць на бачынах „Хр. Думкі"? Вось-жа гэтакіх актуальных тэмаў у „Хр.Думцы" ня было, дзеля гэтага ня толькі ў горадзе, але і на вёсцы чы-

## „Człowiek wolny" Nr. 2-3.

Нядаўна ў Лодзі пачаў выходзіць новы тыднёвік п. наз. „Człowiek wolny—zew sumienia". Ёсьць гэта орган польскіх і жыдоўскіх дэмакратаў, а магчыма і дэмакратычных групаў, аб'яднаных дзеля барацьбы з антысэмітызмам. З некаторых артыкулаў і зацемак відаць, што гэты тыднёвік стаіць на грунце адзінага польскага народнага фронту.

У № 2-3 ад 2. VIII. г. г. спатыкаем між іншым доўгі артыкул нейкага Я. Гальчэўскага п. наз. „Naród bez ziemi". Загаловак насоўваў-бы думку, што аўтар мае на мэце жыдоў. Аказваецца—не: артыкул прысьвечаны беларусам і ня толькі пад Польшчай, але агулам, дзе яны жывуць.

Аўтар разглядае беларускае пытаньне дужа цікава і лічыць беларусаў „народам без зямлі" таму, што яны на сваей вялікай этнографічнай тэрыторыі твораць нацыянальную меншасьць. Хто творыць большасьць на гэтых землях аўтар ня кажа. Як нацыянальная меншасьць, беларусы, паводле аўтара, павінны зрачыся думкі аб незалежнасьці, а прытарнавацца да ўмоваў жыцьця тых дзяржаў, у якіх яны апынуліся. За гэта дзяржавы, у якіх беларусы жывуць, павінны рупіцца аб іхнім дабрабыце і стварыць з глухіх беларускіх земляў квяцістыя краі (праз зямельную рэформу, разьвіцьцё турыстыкі і г. д.).

Як на доказы сваей тэзы аўтар паклікаецца на „аб'ектыўныя" дадзеныя. Памінаючы нават апошні сьпіс насельніцтва Польшчы, паводле якога беларусаў у Польшчы ёсьць бяспрэчна болей як 1½ мільёна, аўтар паклікаецца на статыстыку нейкага Малешэўскага, які налічвае беларусаў у Польшчы 1 мільён. Агулам жа беларусаў на іхнай этнографічнай тэрыторыі мае быць чамусь толькі 6 мільёнаў.

Аб беларускай прыродзе, натуральных багацьцях, літэратуры, культурным і палітычным жыцьці аўтор успамінае як аб чымсь страшэнна прымітыўным. Больш менш правільна ацэнівае ролю беларускага народу ў мінуўшчыне, у жыцьці Вял. Кн. Літ., але і тут атрымліваецца ўражаньне, што аўтар робіць гэта, каб дапячы літоўцам, бо чэхаў і літоўцаў лічыць чамусь галоўнымі інспіратарамі сучаснага незалежніцкага беларускага руху. Уласныя беларускія арганізацыі, асабліва палітычныя (прыкладам „Грамада") ў сэнсе народнай ідэолёгіі, паводле аўтара, нічога беларусам прынесьці ня могуць, бо нацыянальная меншасьць заўсёды гэткай пазастанецца.

Так-жа характар і стан беларускай культуры, асабліва сучаснай (нізкі ровень, нейкая мешаніна і хаос усходніх і заходніх уплываў) можа толькі прамаўляць на некарысьць беларусаў, бо гэты хаос ня можа вытварыць адналітага заходняга ці ўсходняга тыпу культуры. Дзеля гэтага, паводле аўтара, лепш, каб розныя культуральна часткі Беларусі зліліся з адпаведнымі культурамі суседзяў.

„Nie naród, lecz plemię, nie język, lecz prawie narzecze"— кажа аўтар.

Як бачым, падыход да справы дужа арыгінальны. Арыгінальнасьць яго палягае не на тым, што аўтар бачыць нястачу ў беларускім руху суб'ектыўнага дзейніка дзеля тварэньня незалежніцкай ідэолёгіі, паіменна недасьпеласьць да гэтага беларускіх масаў, але на тым, што аўтар тужыцца даказаць „аб'ектыўнымі" мамэнтамі немагчымасьць існаваньня гэткай ідэолёгіі ў беларусаў і да паўтараных ужо дагэтуль „аб'ектыўных" дзейнікаў дадае новы—што беларусы на ўласнай этнографічнай тэрыторыі твораць нацыянальную меншасьць. Апошні аргумэнт заўсёды стаяў-бы на перашкодзе нават у прыпадку перамогі беларусамі ўсіх іншых, бо якое-ж права мелі-б беларусы імкнуцца да незалежнасьці там, дзе твораць толькі меншасьць?

Мноства закранутых аўтарам „аб'ектыўных" фактараў не дазваляе тут даўжэй над імі спыніцца і мы толькі звялікшага пакажам, у чым ён памыляецца. Цікава яшчэ і тое, што такіх аргумэнтаў, якія падае „Człowiek wolny", не падаваў ніводзен эндэцкі часапіс.

Аргумэнт — „беларусы нацыянальная меншасьць на сваей этногр. тэрыторыі" быў-бы надта паважны, калі-б адказваў сапраўднасьці. Але гэтак ня ёсьць. *Беларусы на займанай імі тэрыторыі твораць бяспрэчна абсалютную этнічную большасьць.* Другая рэч, што ня ўсе беларусы зьяўляюцца сяньня сьведамымі сваей нацыянальнасьці, аднак і гэта нясьведамая маса пазастаецца толькі беларускай, а не якой іншай. Асьведамленьне-ж яе — толькі квэстыя часу.

Так-жа і па сваіх прыродных багацьцях беларускія этнографічныя землі ня ёсьць горшыя, чымся землі шмат якіх незалежных краёў Эўропы. Сяньня ўжо адкінены даваенны пагляд пераважна расейскіх географаў і эканамістаў на Беларусь, як на край скрыўджаны прыродай, бедны, закінены, прымітыўны, няпрыгожы. Сяньня агульна прызнаецца, што прыродныя магчымасьці Беларусі ня горшыя ад іншых краёў і нават цалком гварантуюць эканамічную незалежнасьць беларускіх этнографічных земляў, а хараство прыроды пацьвярджаецца хоць-бы штогодкі ўзростам турыстаў тут у нас. Адносная невялікая гушчыня насельніцтва ў параўнаньні з іншымі краямі можа дэцыдаваць толькі аб земляробскім характары беларусаў, а не аб чым іншым.

Трэці аргумэнт, які мы сфар-

тачы „Хр. Думкі“ часта выказваліся, што гэткі часапіс у беларускім жыцьці лішні і што на яго толькі марнуюцца грамадзкія грошы.

Апроч гэтых чыста тэхнічных і рэдакцыйных заганаў былі і ідэовыя. Справа ў тым, што ў кіраўніцтве „Хр. Думкі“ і другой зблізканай да яе газэты было вялікае ідэовае разыходжаньне. Мінаючы ўжо факт, што напрыклад, дзейнасьць арц. Ялбжыкоўскага ў аднэй газэце хвалілася, а ў другой ганілася, на што чытачы зварочвалі ўвагу, мы затрымаемся на апошнім нумары „Хр. Д.“ з жніўня г.г. Там у перадавіцы п. заг.: „Патрэба абнавіцца“ між іншым сказана, што варожымі для хрысьціянства кірункамі ёсьць ня толькі саcыялізм, але і нацыяналізм, які тамака названы паганскім.

Чытаючы гэтую стацьцю, можна падумаць, што сапраўды кожны нацыяналізм, а ў тым ліку і беларускі, ёсьць паганскім і варожым да хрысьціянства кірункам, якога прававерны хрысьціянін павінен пысьцерагацца. Дык мусім тут выясьніць, што нацыяналізм можа быць і хрысьціянскі; а такім ён будзе тады, калі загадывае любіць сваё роднае, памагае разьвіцьцю роднай мовы і культуры, не накідае сілай гэтай культуры іншым народам і ня нішчыць іх. Беларускі нацыяналізм *у сучаснасьці* мае ўсе гэтыя прыметы і назваць яго ў цяперашнім палажэньні паганскім ёсьць рэчай вельмі несправядлівай. Беларуская нацыя цяпер ні то што нікога ня зводзіць са сьвету, але сама ледзь бароніцца ад чужых нацыяналізмаў... Пры гэтым трэба прыпомніць рэдакцыі „Хр. Д.“, што ня кожны інтэрнацыяналізм ёсьць хрысьціянскі і каталіцкі, бо ёсьць і паганскі...

Называючы нацыяналізм паганскім, рэдакцыя „Хр. Д.“ зыходзіць на грунт дву-дарожжа або таго ідэовага разыходжаньня, аб каторым мы ўжо ўспаміналі. І так — калі ў „Хр. Думцы“ нацыяналізм называецца паганскім, то ў другім беларускім часапісе, зблізжаным да „Хр. Думкі“, гэты самы „паганскі“ нацыяналізм прадстаўляецца чытачам, як вялікая беларуская народная вартасьць... Прачытаўшы адну і другую газэту, чытачы не бяз прычыны пытаюцца: каму верыць—аднаму часапісу, ці другому; дзе праўда, тут ці там?

Але гэта яшчэ ня ўсё. Аналізуючы глыбей ідэовы крызыс і раздваеньне ў рэдакцыі „Хр. Думкі“, мы знаходзім яшчэ большы дысонанс у кіраўніцтве гэтага часапісу. І так, „Хр. Думка“ мае быць хрысьціянскім і каталіцкім органам, праводзячым і баронячым хрысьціянскія ідэалы як у тэорыі так і ў практыцы. Аднак з другога боку рэдактар тэй-жа „Хр. Думкі“ ў другім часапісе, польскім, падае да публічнага ведама, што ягоныя адносіны да „народнага“ фронту ў Польшчы пазытыўныя... („Poprostu Nr. 13 з дн. 5. II. г. г.). Дык як пагадзіць хрысьціянскі кірунак „Хр. Думкі“ з антыхрысьціянскім кірункам „народнага“ фронту? Тут ужо ёсьць такое вялікае ідэовае разыходжаньне, што яго ня можна назваць нават двударожжам, а трэба назваць бездарожжам.

Магчыма, што гэтае бездарожжа ў апошнім часе адчула і сама рэдакцыя „Хр. Думкі“, бо ў гэтым-жа апошнім нумары пры канцы перадавіцы друкуе такія характэрныя і важкія словы: „падчоркваем патрэбу абновы „Хр. Д.“ з каталіцкага прынцыповага гледзішча“.

Так, абнова „Хр. Думкі“ і з прынцыповага гледзішча вельмі патрэбна!

### Няўжо Р. Астроўскі і далей будзе дырэктарам Беларус. Гімназіі?

Пасьля грамадзкага суду, які адбыўся паміж Р. Астроўскім з аднаго боку, а А. Луцкевічам і тав. з другога, для беларускага грамадзянства стала ясным, што Р. Астроўскі дырэктарам Бел. Гімназіі ў Вільні ня будзе. Закіды, якія былі пастаўлены Р. Астроўскаму і сьцьверджаны грамадзкім судом, былі вялікія: у прысудзе выразна гаварылася, што „адносіны яго да студэнтаў з карпарацыі Скарынія былі дэмаралізуючымі з пункту гледжаньня грамадзкага“. Гэты дэмаралізуючы ўплыў зараз пасьля абвешчаньня прысуду быў сьцьверджаны фактычна, бо гадунцы Р. Астроўскага з карпарацыі Скарынія выступілі ў абароне яго супроць асуджэньня грамадзкім судом... На гэты факт у сваім часе зьвярнуў увагу „Przegląd Wil.“, які ня мог зразумець таго, каб студэнты, ды яшчэ праўнікі, маглі выступіць у абароне чалавека, асуджанага грамадзкім судом. Аднак гэта было. Дык усё прамаўляла за тым, што Астроўскі, які меў дэмаралізуючы ўплыў на студэнцкую моладзь, будзе адсунуты ад гімназіяльнай моладзі, на каторую таксама, пры гэтакія закідах, ня мог мець дадатняга ўплыву. Прыпаміналі яшчэ і тыя факты, што Астроўскім было выкінута з гімназіі да сотні вучняў за розныя правіны, а прадусім за камунізм, за той самы камунізм, каторы пашыраўся якраз за дырэктарства Астроўскага. Значыць, дыр. Астроўскі *або ня мог* спыніць камунізму ў гімназіі, *або не хацеў*. Адно і другое, апроч суду, дыскваліфікуе яго, як дырэктара.

Дзеля гэтага ўважаем, што далейшае прабываньне здыскваліфікованага чалавека на пасадзе дырэктара недапушчальна. Ня гледзячы на тое, што ў абароне Астроўскага сталі некаторыя варшаўскія кругі з часапісам „Sprawy Narodowościowe“ на чале, то беларускае грамадзянства павінна выразіць проціў прабываньня Р. Астроўскага на пасадзе дырэктара Бел. Гімназіі рашучы пратэст.

### Нягодныя мэтады „Нашай Волі“.

„Наша Воля“ ў 12 нумары г. г. зьмясьціла нібы карэспандэнцыю з вёскі Вострава Слонімскага пав., у каторай „сяляне“ гэтай вёскі пратэстуюць проціў „Бел. Фронту“, выдумоўваючы на яго розныя паклёпы. На пустыя выдумкі гэнай „карэспандэнцыі“ мы ня хочам адказваць, толькі яшчэ раз зварочваем увагу чытачоў на нягодныя мэтады палемікі „Н. В.“ з сваімі працаўнікамі. Як мы заявілі ў прошлым нумары нашай газэты, мы ў асабістую лаянку, дацінкі і грызьню займацца ня будзем; на месца асабістай лаянкі мы ўводзім ідэолёгічнае змаганьне паглядаў і кірункаў; няхай ідэя змагаецца з ідэяй, кірунак з кірункам, думка з думкай. На гэта мы і стварылі *беларускі* фронт, каб змагацца з рознымі чужацкімі фронтамі і змаганьня не баімся. Мы ў прошлым нумары пісалі, куды „Н. В.“ вядзе беларускі народ, а іменна ў *польскі народны фронт*, і запярэганьня з боку „Н. Волі“ на гэта не атрымалі, а толькі пустыя выдумкі і зьвягу. Відаць, што „Н. В.“ ўхіляецца ад палемікі ідэолёгічнага характару, а дзяржыцца больш для яе адпаведных мэтадаў асабістай лаянкі і напасьцяў. Пры гэтых мэтадах мы яе і пакінем.

---

мулавалі як адсутнасьць аднаго тыпу беларускай культуры, ставіцца ня толькі аўтарам разгляданага артыкулу. Беларусы часта і з розных бакоў спатыкаюцца з цьверджаньнем, што „ратунак“ іхні або ў поўным далучэньні да культуры Усходу або ў такім-жа далучэньні да культуры Захаду. Кажуць, што трэцяга быць ня можа. Але ці гэтае процістаўленьне Усходу і Захаду сяньня, у эпоху штораз крапчэйшага сусьветнага крыжаваньня ўзаемных культурных уплываў, ёсьць наагул актуальным? Трэба адказаць, што так. Паміма ўсіх дасягненьняў сучаснай матэрыяльнай і духовай культуры, з якіх у аднолькавай ступені карыстаецца Усход і Захад, усё-ж трэба сьцьвердзіць, што тысячагадовае асобнае жыцьцё стварыла між народамі ўсходнімі і заходнімі розьніцы, каторыя доўга будуць існаваць. Ці ў гэтых умовах тып беларускай культуры можа быць выключна ўсходні або заходні? Не. Беларусь ляжыць на пагранічча гэтых дзьвюх культураў і ад вякоў падлягала і падлягае іхнім уплывам. Толькі сынтэза гэтых скрыжаваных уплываў можа быць паказчыкам кірунку беларускай культуры, але не выключнае панаваньне таго ці іншага. Гэтаму вучыць нас і наша гісторыя. Толькі тады беларускі народ перажываў найслаўнейшыя часы культурнага ўздойму, калі яго жыцьцём кіравалі людзі, разумеўшыя неабходнасьць гэтай сынтэзы (напр. Лявон Сапега). І наадварот, калі кіраўніцтва трапляла да прыхільнікаў чысьцейшага заходняга або ўсходняга кірунку, тады пачынаўся культурны заняпад, а кіраўнікі гэтыя саскользываліся да ролі звычайных агентаў маскоўскай ці польскай палітыкі. Сынтэза культурных уплываў стварыла ў працягу вякоў асаблівасьці беларускай культуры, якія адрозьніваюць яе ад культураў суседзяў. Гэтая ейная апрычонасьць ёсьць дзейнікам, каторы сьведама ці падсьведама спраўджвае прыгоднасьць ці няпрыгоднасьць тых ці іншых культурных вартасьцяў (мы ведаем, што далёка ня ўсё, што нясе Беларусі Усход або Захад прышчэпліваецца на ейным грунце).

„Аб'ектыўныя“ затым аргуманты аўтара арт. „Naród bez ziemi“ адносна немагчымасьці існаваньня незалежніцкай беларускай ідэолёгіі неабаснаваныя. Якраз наадварот, толькі гэткая ідэолёгія ў нас мае цьвёрдае аб'ектыўнае апірышча. Суб'ектыўны-ж мамэнт—асьведамленьне масаў — як залежны ад волі беларусаў, напэўна надыйдзе.

*М. Шк.*



## На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц жнівень*).

### Два блёкі дзяржаў.

Трэба прызнаць, што Эўропа ўвайшла апошнім часам у пэрыяд вельмі трудны. Здаецца, што набліжаюцца важныя падзеі, якія могуць зьмяніць уклад палітычных сілаў у Эўропе і ў цэлым сьвеце. У Эўропе ўтварыліся ўжо *два блёкі* вялікіх дзяржаў, якія стараюцца прыцягнуць на свой бок меншыя дзяржавы. З аднаго боку блёк нацыянальных або г. зв. фашыстоўскіх дзяржаў, да якога належаць: Нямеччына, Італія, Аўстрыя, Вэнгрыя; з другога боку блёк інтэрнацыянальных і лібэральных дзяржаў, да якога належаць: Францыя, Саветы, Чэхаславаччына і... Англія. Гэтая апошняя дзяржава, праўду кажучы, не зьвязана цалком з другім блёкам, але трэба сьцьвердзіць, што ўсе сымпатыі яе па старане другога блёку. Аб прычынах гэтай сымпатыі мы пісалі ў прошлым нумары нашай газэты; тут толькі адзначаем, што англійская палітыка заўсёды далучалася да таго блёку, каторы найменш грaзіў яе інтарэсам. І так, у часе Вялікай вайны Англія далучылася да француска-расейскага блёку і разам з Францыяй і Расеяй біла Нямеччыну, бо ўзрастаючая магутнасьць гэтай апошняй пагражала англійскім марскім гандлёвым шляхом і наагул панаваньню Англіі на моры; апроч гэтага Нямеччына імкнулася да заняцьця Бэльгіі і заўладаньня бэльгійскімі берагамі ту ж насупроць берагоў Англіі, да чаго Англія не магла дапусьціць, дык разам з Францыяй і Расеяй выступіла проціў Нямеччыны. А сто гадоў таму, за Напалеона, Англія разам з Нямеччынай і Расеяй біла Францыю; у часе Крымскай вайны яна ізноў разам з Францыяй біла Расею, словам, Англія ў працягу вякоў выступала проціў тэй дзяржавы, або таго блёку дзяржаў, якія пагражалі яе інтарэсам. Гэтак і цяпер. У апошнім часе найбольшым ворагам яе, апроч Нямеччыны, зьявілася Італія, якая імкнецца да апанаваньня Міжземнага мора і вядучых праз яго марскіх шляхоў (Гібралтарскі праліў і Суэскі канал). Гэта прымушае буржуазную Англію стаць поруч з Саветамі проціў Італіі і Нямеччыны... Каб адцягнуць яе ад гэтай супалкі, Нямеччына выслала ў Лёндын аднаго з найлепшых сваіх дыпляматаў, фон Рыбэнтропа, які там мае знаёмствы і сувязі, але ці гэта што паможа, трэба моцна сумнявацца. Для Англіі і яе інтарэсаў бліжэйшы другі блёк, хоць там знаходзяцца зьненавіджаныя ею Саветы. З другога боку Саветы адносна Англіі дзяржацца цяпер зусім прызваіта: не заводзяць камунізму у яе калёніях, не арганізуюць страйкаў у прамысловых цэнтрах, а на паховіны караля Юрага V выслалі адумысловую дэлегацыю, якая ў Лёндыне ўваходзіла ў бліжэйшы кантакт з англійскай дыпляматыяй...

Значыць Англія знаходзіцца ў француска-савецкім блёку, які скіраваны проціў нямецка-італійскага. Кожны блёк стараецца зьяднаць для сябе новых сяброў — і дзеля зьяднаньня іх адбываюцца падарожы дыпляматаў, гутаркі, рэвалюцыі (Грэцыя), а нават цэлыя войны (Гішпанія).

Як мы ўжо казалі, да першага (фашыстоўскага) блёку належаць: Нямеччына, Італія, Аўстрыя і Вэнгрыя. Гэты блёк хоча прыцягнуць на свой бок Грэцыю, Югаславію, Баўгарыю, Фінляндыю і... Польшч. З другога боку француска-савецкі блёк хоча пацягнуць за сабою Турцыю, Румынію, Бэльгію і... тую-ж Польшч.

Цяпер для нас ясным стане прыезд ген. Гамэлена ў Польшч і скоры выезд ген. Рыдз-Сьміглага ў Францыю...

### Палітыка Польшчы.

Да 1926 году палітыка Польшчы была наскрозь франкафільскай. Саюз з Францыяй быў галоўным палітычным правілам польскай эндэцыі і іншых правых груп, якія тады былі пры ўладзе. У заграничнай палітыцы гэтыя групы нічога не рабілі бяз ведама і згоды Францыі. Францыя чула гэта і глядзела на Польшч не як на саюзьніцу, але як на свайго васала, які мусіць рабіць тое, што яму загадае яго сюзэрэн. Гэтакае становішча не падабалася марш. Пілсудскаму і ён, як толькі дайшоў да ўлады, пачаў зрываць з Францыяй, а прыбліжацца да Нямеччыны. Поўнае збліжэньне наступіла 26 студня 1934 году, калі быў падпісаны з Ням. пакт ненападаньня на 10 гадоў, а потым гандлёвы дагавор. Палітычныя кругі пачалі падазраваць, што Польшч зусім зрывае з Францыяй і будзе памагаць Нямеччыне ў рэалізацыі яе ўсходніх плянаў. Аднак польскія кругі заяўлялі ўсьцяж, што саюз з Нямеччынай яшчэ не азначае зрыву з Францыяй, бо ў пакце з Ням. ёсьць пункт, у каторым гаворыцца, што ўсе ўмовы Польшчы з іншымі дзяржавамі (чытай: з Францыяй) астаюцца ў сіле...

Аднак паміма гэтых заяваў падазрэньні адносна сувязяў польскай палітыкі з нямецкай асталіся моцнымі. І так, Саветы ставілі закід Польшчы, што яна разам з Нямеччынай мае ісьці і здабываць Украіну, Беларусь і нават Каўказ а Чэхаславаччына заяўляла проста, што Польшч разам з Ням. імк-

нецца да падзелу яе. Гэтага самага баялася Літва і нават Латвія. Пры такіх абставінах палажэньне Польшчы стала вельмі цяжкім навакол ня было ніводнага пэўнага саюзьніка, бо ані Нямеччыны, ані тымболей Саветаў, з каторымі таксама быў падпісаны пакт ненападньня, за пэўных саюзьнікаў лічыць ніяк ня можна было. Чэхаславаччына пачала нават вельмі востра выступаць проціў Польшчы, закрываючы на пагранічча польскія школы, арганізацыі і высяляючы падазроных палякаў. Гэтае цяжкое палажэньне Польшчы рабілася яшчэ цяжэйшым, бо пры магчымай вайне Францыі з Нямеччынай Польшч мімаволі была-б уцягнута ў вайну і то на старане Нямеччыны...

Як-жа гэта магло-б стацца? Справа ў тым, што Францыя з Саветамі маюць дагавор, паводле якога Саветы павінны прыйсьці ў помач Францыі на выпадак яе вайны з Нямеччынай. А кожны ведае, што Саветы з Ням. не гранічаць і маглі-б дайсьці да яе або праз Румынію і Чэхаславаччыну, або праз Польшч. Першы шлях даўжэйшы і бяз добрых камунікацыйных лініяў, а другі лепшы, але як магла-б Польшч пусьціць у свае граніцы камуністычную армію? Пусьціўшы гэту армію, трудна было-б потым яе выгнаць, апроч гэтага яна магла-б скамунізаваць насельніцтва, а ўрэшце — вайна магла-б адбывацца ў граніцах Польшчы. Значыць, пусьціць савецкую армію ў Польшч ніяк ня можна, а калі ня можна пусьціць, то трэба бараніць сваіх граніц сілаю... Гэтакім парадкам Польшч магла-б быць уцягнутай у вайну з Саветамі паміма сваей волі.

Цяпер пры яднаньні кожным блёкам новых сяброў, палітычнае палажэньне Польшчы папраўілася. Польшч зрабілася цэнтральным пунктам эўрапэйскай палітыкі, так як і... Гішпанія. Рожніца толькі тая, што Гішпанію кожны блёк здабывае для сябе сілаю, а Польшч — мірнымі перагаворамі.

### Прыезд Гамэлена ў Польшч.

Прыезд начальніка штабу франц. арміі ў Польшч выклікаў у палітычным сьвеце цэлую сэнсацыю. Гэтакай раптоўнай і высокай візыты ніхто не спадзяваўся. Відаць, што Францыі Польшч раптам спатрэбілася для яе плянаў. Якія гэта маюць быць пляны—ніхто ня ведае. Дзеля гэтага здагадаў шмат. Адны здагадваюцца, што Францыя хоча перашкодзіць Нямеччыне будаваць у Надрэніі ўкрапленьні і дзеля гэтага мае зрабіць упераджаючы націск пры помачы аружнай сілы; другія кажуць, што Францыя хоча зрабіць аружную інтэрвэнцыю ў Гішпаніі на карысьць народнага фронту; трэція — што прыезд Гамэлена ў Польшч меў на мэце „разгрузіць" савецка-польскую граніцу і перашкодзіць у рэалізацыі ўсходніх плянаў—словам, здогадак многа. Адно пэўнае, што справа датычыць Нямеччыны, бо ані ген. Гамэлен, ані ген. Рыдз-Сьміглы не паехалі простаю дарогаю праз Нямеччыну, але акружною праз Швайцарыю, Аўстрыю, Чэхаславаччыну... Яшчэ адзін факт зьвярнуў увагу палітычных кругоў, што рэвізыта ген. Рыдз-Сьміглага, якая мела адбыцца ў месяцы верасьні, адбылася ў канцы жніўня. Відаць, некаму няма часу на чаканьне...

Найгорш тое, што гэтыя візыты і рэвізыты акружаны вялікай тайніцай, да таго, што нават прамовы пры стале (тоасты) не пададзены да публічнага ведама. Спадзяёмся, што час усё выясьніць.

Польская прэса прасьцерагае Францыю прад аружным умешваньнем у гішпанскія або якія іншыя справы, бо гэта магло-б выклікаць эўрапэйскую, а нават сусьветную вайну.

### Крывавае змаганьне ў Гішпаніі.

Два блёкі дзяржаў, якія гатовяцца да афіцыяльнага змаганьня паміж сабою і мабілізуюць дзеля гэтага ўсе сілы, ужо неафіцыяльна змагаюцца на землях Гішпаніі. Францыя, Саветы і Англія памагаюць народнаму фронту, а Італія і Нямеччына — нацыянальнаму. Дзеля гэтай помачы хатняя вайна ў Гішпаніі зацягнулася і вызначаецца вялікай заўзятасьцю і страшэнным варварствам як з аднаго боку так і з другога. Даволі сказаць, што забітых ёсьць ужо каля 50 тысяч, а раненых — 135 тысяч! Узятых у палон забіваюць, дзеля гэтага як адны так і другія б'юцца да апошняй магчымасьці, бо ўсё адно сьмерць. Трэба прызнаць, што такога крывавага і заўзятага змаганьня ў хатняй вайне яшчэ не натавала гісторыя. Мясцамі вайна прымае рэлігійны характар, бо „народны" фронт выступае проціў рэлігіі і паліць сьвятыні. Паўстанцы перамагаюць, але з трудом; апошнім часам вайна носіць характар сапраўднай пазыцыйнай вайны, бо як адны так і другія акапаліся на сваіх пазыцыях і гатовяцца да апошняга рашучага бою. У руках паўстанцаў большая часьць Гішпаніі з 12 мільёнамі насельніцтва, а ў руках урадавага „народнага" фронту меншая з 8 мільёнамі. Мы ня будзем тут спыняцца падрабязна над ходам змаганьня, бо гэта нас меней інтарасуе, а лепш затрымаемся над тым, што з гэтага ўсяго можа выйсьці. А можа выйсьці новая эўрапэйская вайна... Праўда, дзяржавы бароняцца ад гэтага і вядуць перагаворы над спыненьнем помачы якаднэй так і другой ваюючай старане, але ці гэта што паможа? Калі дзяржавы афіцыяльна і ня будуць памагаць, то знойдуцца прыватныя асобы і арганізацыі, якія будуць памагаць „бяз ведама" сваіх урадаў— і такім чынам помач усёжтакі будзе ісьці. „Народны" фронт у Францыі робіць вялікі націск на ўрад Блюма, каб афіцыяльна памог „народнаму" фронту ў Гішпаніі, бо інакш Францыя можа быць акружанай фашыстоўскімі дзяржавамі з трох старон: Нямеччынай, Італіяй і Гішпаніяй... Каб усьцерагчыся ад гэтай грознай небясьпекі, француская дыплямацыя дабывае апошніх сіл...

Слабасьцю гішпанскіх паўстанцаў ёсьць неўрэгуляванае пытаньне г. зв. нацыянальных меншасьцяў: каталёнцаў і баскаў, якія сталі па старане ўраду, бо ўрад абяцаў ім аўтаномію. Як каталёнцы так і баскі імкнуцца да незалежнасьці. Калі-б перамаглі паўстанцы, то магчыма што Францыя паддзяржала-б незалежніцкія імкненьні каталёнцаў і баскаў, бо лепш для яе суседаваць з Каталёніяй і Баскіяй, чым з фашыстаўскай Гішпаніяй. Урэшце аслабленьне Гішпаніі ёсьць таксама карысным для Францыі.

Апошнім часам нават разыйшліся весткі аб праекце падзелу Гішпаніі на некалькі незалежных дзяржаў. Апроч Каталёніі і Баскіі мелі-б утварыцца яшчэ дзьве дзяржавы: адна з паўстанскім урадам у Бургос, а другая з даўнейшым — у Мадрыце. Праект гэты падала быццам Англія, а паддзержывае Францыя... Такім парадкам падзеленая Гішпанія не была-б страшная ані для Англіі (ў Гібралтары), ані для Францыі; а так-жа мала прынесла-б карысьці для Італіі... Але ці да гэтага дапусьціць Італія? Бо італьянскія газэты пішуць, што абаснаваньне саветаў у Гішпаніі для італ. палітыкі недапушчальна; але гэтак сама недапушчальна для Францыі ўгрунтаваньне ў Гішпаніі фашызму!

На Гішпаніі бачым клясычны прыклад „нарушаных" інтарэсаў вялікіх дзяржаў!

---

*БЕЛАРУСЫ! вучэце сваіх дзетак*

*у роднай беларускай мове!*

*Складайце дэкларацыі школьным уладам на беларускую школу!*

*Ва ўсіх школьных справах зварочвацеся ў Школьны Сакратарыят: Вільня, Каралеўская 3—8,*

---



---

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га кастрычніка.*

---

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч.*

---

## Уражаньні з экскурсіі па Наваградчыне.

Выбіраючыся з беларускім студэнцкім выбегам у Наваградчыну, я быў папярэджаны, што спаткаюся там з скамунізаваным насельніцтвам, якога рупліва даглядае паліцыя, каторая адносіцца да прыбылых у яе тэрэн турыстаў ня надта ветліва і ўпрыкрае падарож частым легітымаваньнем.

Як асабіста вынес уражаньне, дык справа скамунізаваньня насельніцтва аказалася перавялічанаю. Наваградчына агулам ня ёсьць скамунізаваная. Яна ёсьць нацыянальна сьведамая і мае радыкальныя пагляды, на што некаторыя дзейнікі глядзяць як на камунізм.

Датычна паліцыі, дык папярэджаньне аказалася слушным. Ужо пры першай астаноўцы ў Валяўцы ўсіх нас вылегітымавалі і „прасілі" не навязываць кантакту з сялянствам. Гэткае заяўленьне паліцыі шмат што гавора і выясьняе прычыну магчымага скамунізаваньня сялянства. Ставячы перашкоды беларускай інтэлігенцкай патрыятычнай моладзі ў навязываньні кантакту з іхнімі братамі сялянамі, адбіраецца гэтым магчымасьць накіраваць нацыянальную сьведамасьць сялянства на адпаведны і карысны шлях. Дзеля гэтага шматлікія закансьпіраваныя камуністычныя агітатары робяць сваё. А селянін не прасьвеціцца і ня знойдзе адказу на розныя ягоныя сумнівы і беды, як толькі ў кантакце з паліцыяй і сэквэстрарамі. Вось дзе прычыны духовага бездарожжа вялікай часткі сялянства!

Дзякуючы розным ад'ёмным дзейнікам адміністрацыйнага і эканамічнага характару, нацыянальна сьведамае праваслаўнае жыхарства Наваградчыны настроена варожа да цяперашняга палажэньня. Гэта надта спрытна выкарыстоўваюць камуністычныя агітатары, якія робяць тое, што селянін пачынае сымпатызаваць Саветам, не сымпатызуючы аднак камуне і калектывам. Гэтая сымпатыя мае больш характар, сказаў-бы, палітычна-нацыянальны. Проста селянін адчувае кроўную сувязь з братамі Меншчыны, а моцна нездаволены з свайго палажэньня, чакае нейкай перамены... Праўду кажучы, гэтае чаканьне абнядужвае людзей і адбірае ім ініцыятыву і ахвоту да працы.

Усе думкі і імкненьні сялянства магла-бы ськіваваць на адпаведную дарогу ягоная патрыятычная інтэлігенцыя. Але ёй перашкаджаецца рабіць з вёскай кантакт.

Пэсымістычныя настроі сялянства павялічваюцца яшчэ адносінамі да яго мясцовай адміністрацыі і паліцыі. Такі напрыклад паліцыянт на вёсцы лічыць сябе за нейкага непарушнага і недаступнага валадара, якому грамадзянін ня можа зьвярнуць ніякай увагі. Калі, напрыклад, у Цырыне я запытаўся ў расхрэстанага паліцыянта, які нас легітымаваў, чаму ён, выконваючы службу, мае ня службовы выгляд, дык ён крыклівым голасам выказываў абурэньне на падобнае запытаньне. Калі ён так нявеплів захоўваўся перад грамадой турыстаў, дык можна сабе прадставіць, як ён захоўваецца перад сялянамі!

Шмат дакучаюць насельніцтву г. з. шарваркі, якіх некаторыя раўнуюць з даўнай паншчынай. Гэтыя шарваркі запраўды забіраюць людзям шмат часу. Напрыклад адзін з жыхароў м. Сьвержня, маючы 5 га зямлі і дом, які аддае ў арэнду—мусіць адрабляць 150 дзён у год шарварку! „Кожны другі дзень трэба працаваць на пана шарварка"--казаў ён іранічна.

Абсьмейваюць і дзівяцца сяляне з падзелу працы на шарварках. Гэтак, напрыклад, у Стоўпцах расказывалі, што ў іхнім раёне на кожным кроку можна спаткаць такі абразок: тры худзенькія кабеты капаюць зямлю, а іх даглядае, машыруючы з заложанымі ззаду рукамі, здаровы мужчына.

Калі дадаць яшчэ прымус бяленьня звонку драўляных хатаў (праўду кажучы, было-б куды лепш змушаць бяліць хаты ўнутры), дык будзе больш-менш абразок таго, што робіць селяніна нездаволеным ці нават камунізуючым. Паміма ўсяго селянін Наваградчыны ёсьць далёкі ад камуністычнай ідэолёгіі, нават у выпадках спачуваньня Саветам. Ён, можна сказаць, бліжэйшы да нацыяналізму: варожа адносіцца да ўсяго польскага, хаця крыецца з гэтым, нікому не давяраючы, і нават часам з пэўнай мэтай можа запісацца „праваслаўным палякем" і гэтым уводзіць у блуд некаторыя польскія дзейнікі, якія бачаць у гэтым прыемную для іх асыміляцыйную праяву.

Тымчасам у сапраўднасьці гэтая праява ёсьць звычайным ашукваньнем сябе і іншых. Кажуць, што гэткім спосабам пры апошнім сьпісе ў Стоўпцах 50 праваслаўных беларусаў запісалася палякамі. Прыкрая гэта справа як для беларушчыны, так і для польшчыны.

Даецца заўважыць у селяніна і свой спэцыфічны антысэмітызм. Кожнага жыда ён лічыць за махляра, што аднак не перашкаджае яму рабіць з жыдом інтарэсы. Можна спаткаць жыхара пасвоему спачуваючага Саветам і адначасна выказываючага выразныя антысэміцкія пагляды. Наглядаецца гэта пераважна ў тых вёсках, дзе існуе коопэратыў.

За школьную акцыю сяляне ўзяліся энэргічна. Аднак напатыкаюць у гэтым на вялікія перашкоды з боку мясцовых адміністрацыйных дзейнікаў, якія лічаць школьную акцыю за камуністычную інтрыгу.

Разважыўшы ўсё, атрымоўваецца пераконаньне, што і дадатнія і ад'ёмныя вясковыя дзейнікі вядуць да ўсьведамленьня і нацыянальнай кансалідацыі беларускага народу, які памалу, але пэўна ідзе наперад у барацьбе за свае правы.

Ул. К.

---

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.